пастанавіў безадкладнасьць вось якога праекту Нацыянальнага-Дэмакратычнага Саюзу, Польскае Народнае Злучнасьці і іншых паслоў.

„Дзеля шчасьлівага асвабаджэньня пабедным польскім аружжам паўночна-усходняе правінцыі Польшчы з сталіцаю Вільняй з-пад чужога ўціску, надпісаныя прапануюць: Высокі Сойм хай захоча пастанавіць:

1. Сойм выказавае сваю радасьць па поваду пабеднага асвабаджэньня з-пад бальшавіцкай улады поўночна-усходняе правінцыі Польшчы з сталіцаю Вільняй і выказавае сваё прызнаньне і падзяку пабеднай польскай арміі і яе камандуючым.

2. Сойм прызывае ўрад, каб у духу пастановы в 25 пасяджэньня Сойма зрабіў канешныя крокі, каб землі гэтыя, некалісь Люблінскай Уніяй 1569 году на векі з Польшчай злучаныя, а Канстытуцыяй 3-га мая 1791 году ў адзін гасударственны арганізм з Каронай зьвязаныя, пасьля апошняга цяпер ад чужога ўціску асвабаджэньня ў адну гасударственную цэласьць з Рэчайпаспалітай Польскай зноў былі злучаны, згодна з аб'яўленай ужо шмат разоў воляй насяленьня“.

**Дзеля пастановы Сойму з дня 4 красавіка, вышэй высказанай, ніякае апавяшчэньне, ні пастанауленьне, з гэтым нязгоднае, не мае нідзе юрыдычнай моцы.**

Праект Варшаўскага Польскага Сойму намагаецца адным пацягам пяра па паперы зьніштожыць праклямаваную ўсяму сьвету *Незалежнасьць і Непадзельнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі* і такую-ж самую—Рэспублікі Літвы.

Аб спробах шырэньня ідэі: Polska, Litwa, Białoruś i Ukraina—to jedno чулі мы даўно. Шмат брашур у гэтай справе надрукавана ў Варшаве, Кракове і Львове. Усе аўтары брашур выяўляюць абсалютнае няведаньне, як нашае гісторыі так нашых палітычных абставін. Такі „напрыклад пан Вацлаў Васілеўскі, як узьвялічываюць яго: „знаўца беларускіх адносін“, мае сьмеласьць пісаць, што: lud białoruski nigdy własnej państwowości nie posiadał. Іншыя, як вядомы паляком немцафіл Вацлаў Студніцкі, прафэсары Кутшэба і Буяк даюць уселякія рацыі, выцягнутыя з стасункаў 15—16 сталецьцяў, што Беларусь і беларусы—гэта фікцыя. Паном гэтым адказаць трэба: „Рукі проч ад белае, чыстае Беларусі! З такімі яснавяльможнымі панамі, якія хочуць нас навучыць сфальшаванай імі гісторыі, мы гаварыць ня будзем“.

Нягодная крутадушная іх палітыка, неахвота пазнаёміцца з праўдзівымі беларускімі адносінамі на мейсцы, незразуменьне духа часу і заваяваньняў рэвалюцыі — усё гэта б'ець у вочы і прымушае нас глядзець на іх з пагардай.

Ня ведаем, як Польскі Сойм прыйме пажаданьні гэтых паноў, дзяржаўных боа-вужакаў, мы толькі цьвёрда пераканаты, што *Беларускі Народ ніколі не адрачэцца ад ідэі сваёе Народнае Незалежнае Беларускае Рэспублікі.* Хэй сабе ўсе польскія надгакатысты, як браты Студніцкія, Обст, Гласко і іншыя Васілеўскія пішуць і крычаць, што „lud białoruski obojętny i bierny, usiłowań niezależności nie rozumie i nie popiera, a nielicznych(?) przywódców i pionerów ruchu od siebie odpycha“ — усё гэта ня толькі не паможа, а наадварот узмацуе і злучыць у вадну вялікую грамаду усіх беларусоў і не пазволіць ім быць гноем пад рост панскае культуры і панаваньня.

Фундамэнтам гэтага служыць нам нашае сучаснае запраўднае палітычнае жыцьцё і яго здабыткі, сьветлая памятка нашага 1-га усебеларускага зьезду, работы нашых рад, Рады Рэспублікі і яе зносін з усімі дзяржавамі, дзе прынцыпы праваў навет найменьшых народаў прызнаны і шануюцца.

Дзеля гэтага мы глядзім сьмела і ясна у сваю сьветлую будучыню і верым, што:

*Жыве Беларусь і жыць будзе!*

**Саўка Барывой.**

## З ГАЗЭТ.

**„Вільня акупована сацыялістамі“.**

Польская „Gazeta Warszawska“ (№ 116 ад 29—IV) надта нездаволена, што „Вільня акупована сацыялістамі“. Яна піша гэтак: „Назначаны у Вільню камісарам места быўшы журналіст і мясцовы адвакат Вітольд Абрамовіч сабраў урад места, у каторы, як даносяць, увайшлі: Багіньскі, быўшы народны падкамісар, камуніст, 4 польскія сацыялісты, 3 жыды, ліцьвін і беларус. Ясна, што Вільня пачнець новае жыцьцё ад сьвята 1-га мая...“

# Памятка беларускага грамадзяніна.

*Вялікі Сход.*

5—17 сьнежня 1917 году ў Менску адбыўся Першы Усебеларускі Зьезд, на якім былі правамочныя прадстаўнікі ад усіх слаёў беларускага народу. Усяго было каля двух тысяч дэпутатаў.

*Беларусь — рэспубліка*

На зьездзе была прынята аднагалосная пастанова, што Беларусь абвяшчаецца народнай рэспублікай, што ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі выбіраецца тым органам краёвай улады, які застанецца пасьля зьезду.

*Радасьць народу.*

Пастанова гэная была прынята з нязвычайнай высакасьцю духа, у нязвычайнай радасьці. Дэпутаты-сяляне, ў сівых сярмягах і лапцёх, плакалі гаворачы: „Дзякуй Табе Божа! І мы нарэшці дачакаліся, што самі можам гаспадарыць у сваім родным краі!..“

*Незалежнасьць і непадзельнасьць.*

Усе разумелі, што народ, абараніўшы незалежнасьць і непадзельнасьць Бацькаўшчыны, выйдзе на шлях культурна-нацыянальнага і социяльна-эканамічнага адраджэньня.

*Разагнаньне.*

У гэты самы мамэнт у залю Гарадзкога тэатру, дзе засядаў зьезд, прырынулі бальшавікі і гвалтуючы, правам штыха і кулямёта разагналі зьезд, арыштаваўшы дзеяльнейшых дэпутатаў.

*Зламаньне лёзунга.*

Над вольнай воляю беларускага народу ўчыніўся нябывалы гвалт. Зломан быў лёзунг вялікай Расейскай Рэвалюцыі аб праве ўсіх прыгнеценых народаў на вольнае нацыянальнае самаазначэньне.

*Рада П. У. Зьезду.*

Пасьля разагнаньня зьезду, засталася загнатая ў падпольле, бальшавікамі — «обліскомзапцамі» („Областной исполнительный комитет Западной области и фронта“) Рада Першага Усебеларускага Зьезду — у ліку 54 асоб, каторая, *папоўніўшы свой склад прадстаўнікамі ад нацыянальных меньшасьцяў краю* выбрала Спаўняючы Камітэт і даручыла яму правадзіць у жыцьцё ўсе пастановы зьезду.

*Спаўняючы Камітэт.*

Спаўняючы Камітэт быў складзен з 17 асоб і, працуючы ў падпольлі, вёў змаганьне з камісарскім дэспатызмам, бароначы волю беларускага народу, на незалежнае дзяржаўнае жыцьцё, якая была выказана на зьездзе.

*Народны Сэкрэтарыят.*

Калі пасьля Берасьцейскай умовы бальшавікі пакідалі Менск, Спаўняючы Камітэт арганізаваў збройную сілу, абвесьціў сябе вышэйшай уладай на Беларусі і выдзеліў з паміж сябе ўрад рэспублікі — Народны Сэкрэтарыят.

Народны Сэкрэтарыят (Рада Народных Міністраў) быў прызнаны ўсімі дэмократычнымі гарадзкімі і земскімі самаўрадамі, як вышэйшая дзяржаўныя ўлада Беларускай Народнай Рэспублікі.

*Пад немцамі.*

Такім парадкам, хаця і на нядоўгі час, была праведзена ў жыцьцё адна з самых глаўных пастаноў Першага Усебеларускага Зьезду. *Не на доўгі час* дзеля того, што прыйшоўшая нямецкая акупацыйная ўлада спыніла працу Народнага Сэкрэтарыяту і не дала магчымасьці ўмацавацца беларускім дзяржаўным установам у правінцыі.

Праўда, яна потым старалася знайсьці прымірэньне, але гэтае прымірэньне далёка не пайшло, — бо немцы усё-ж такі заставаліся, як і раней, толькі акупантамі.

*Рада Б. Н. Рэспублікі.*

У сакавіку 1 18 году быў скліканы агульны сход Рады Першага Усебеларускага Зьезду, на якім злажыў сваё паўнамочча Спаўняючы Камітэт і Народны Сэкрэтарыят. Рада папоўніла свой склад прадстаўнікамі ад земскіх і гарадзкіх самаўрадаў, выбрана на грунце агульнага выбарнага права, зьмяніла назоў на Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, падцвердзіла правы Народнага Сэкрэтарыяту.

